№ 4 (120). Вільня, 5 Лютага 1938 г. Год X.

# Шлях Моладзі

Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

# Непатрэбнае і шкоднае — найпатрабнейшае і карыснае

## Колькі прапіваем

Ад 1-га да 8-га лютага сёлета ў Польскім Гаспадарстве адбываецца Тыдзень Прапаганды Цьверозасьці. З гэтай прычыны ў газэтах, як з рукава, сыплюцца новыя страшныя цыфры аб жніве алькаголю, якім, проста, верыць ня хочацца. Аднак яны праўдзівыя і выходзяць з афіцыяльных крыніц. І так урадавая статыстыка за першых 9 месяцаў 1937 г. паказвае, што ў некаторых мясцох нашага краю спажыцьцё алькаголю павысілася на 75,9%. Страшны гэты рэкорд асягнулі жыхары Пастаўскага пав., Віленскага ваяводзтва, дзе ў працягу 9 месяцаў 1937 г. выпіта было 61,852 літры на агульную суму 591,002 зл., тады калі за такі-ж час у 1936 г. выпіта было там 36,160 л. на суму 336,520 зл. Агулам-жа ў Віленскім ваяводзтве за 9 мес. 1936 г. выпіта 939,108 літ. алькаголю на агульную суму 8,069,928 зл., а ў 1937 г.—1,054,040 літраў на суму 10,126,525 злотаў. Калі падзелім гэную суму грошаў на агульны лік насельніцтва Віленскага ваяводзтва 1,276,000 асоб, то атрымаем, што кожны жыхар за 9 месяцаў прапіў 8 зл., а за цэлы год прап'е больш 10 зл. І гэта толькі „манаполькі", а колькі-ж самагонкі і дэнатурату?..

Як бачым, на п'янства выдаём дабравольна аграмадныя сумы, і то тады, калі ўсе бядуюць, што цяжка жывецца, тады, калі хваля паваротнага анальфабэтызму, цемнаты, пашыраецца, калі на вёсцы задуха і цесната, якую неадкладна і неабходна трэба разрадзіць.

## Спосабы барацьбы з п'янствам

Дзе-ж і якія спосабы барацьбы з гэтай страшнай праявай, якая вядзе нас і будучае пакаленьне да згубы? Як сапраўды зарадзіць, каб не капалі мы пад сабой ямаў, а йшлі да лепшага жыцьця?

Вось-жа спосабаў барацьбы з п'янствам ёсьць многа. Людзі арганізуюць спэцыяльныя проціўалькагольныя таварыствы, вядуць прапаганду цьверозасьці, выяўляючы ўсе благія староны піцьця гарэлкі і добрыя староны цьверозасьці. Вялікую роль у барацьбе з пашырэньнем п'янства адыгрываюць бацькі, адпаведна настаўляючы сваіх дзяцей, даючы ім добры прыклад. Найвялікшы-ж уплыў на чалавека-адзінку, на наш пагляд, мае таварыства, асяродзьдзе, у якім ён знойдзецца. Чалавек, які хоць і ня п'е, то аднак знаходзячыся часта ў таварыстве, якое найвялікшай разрыўкай уважае для сябе заліць галаву гарэлкай — прывыкае да гэтага і ўцягваецца сам. І дзеля гэтага з вялікай прыемнасьцю адзначаем тут вельмі прыгожы і скуткоўны спосаб барацьбы з пашырэньнем алькаголю, які пачала і праводзіць бел. моладзь у Навагрудчыне.

Барацьба з п'янствам і курэньнем тутуну ў Навагрудчыне сярод беларускай моладзі вядзецца ўжо не ад сяньня. Праяўляецца яна ў тым, што моладзь сабраўшыся пастанаўляе ад пэўнага дня перастаць піць алькагольныя напіткі і курыць тутун. Пасьля-ж, калі хто-небудзь на вечарыне ці так на сяброўскай зборцы нап'ецца, або прыйдзе п'яны, ці курыць, таму ўсе аб'яўляюць сяброўскі байкот. Пры тым сумы грошаў, якія моладзь сабірае ў часе вечарынак, ці ў часе вясельных народных звычаяў, якія калісь былі прызначаны на выпіўку, цяпер ідуць на закуп беларускіх кніжак.

Такі спосаб барацьбы з алькаголізмам і курэньнем тутуну ёсьць высока-культурным, грамадзкім і заслугоўвае на як найбольшае пашырэньне. Такім шляхам павінна йсьці ўся беларуская моладзь, а тады менш будзе ў нас розных інвалідаў, менш нешчасьлівых выпадкаў, згіне разбой, распуста, а перадусім п'янства, каторае ёсьць вялікай і цёмнай плямай нашага жыцьця прыватнага, грамадзкага і агульна-людзкога.

## А што робіцца ў галіне культурна-асьветнай

Чытаючы вялізарныя сумы з статыстыкі аб тым, колькі ў нас людзі прапіваюць, у першую чаргу паўстае пытаньне, а што-ж у нас робіцца дзеля таго, каб пашыраць на вёсцы рамясло, каб моладзь, якая хоча вучыцца, магла йсьці ў школу, ехаць у места, разраджаць вёску, якая задыхаецца і пасьля нясьці ёй сьвятло і лепшую будучыню. На вёсцы часта, нават вельмі часта, гінуць людзі з вялікімі талентамі, людзі, якія маглі-б мо' ня толькі працаваць на ніве роднае культуры, але расславіць наш народ на ўвесь сьвет і ўнесьці ў агульна-людзкую скарбніцу культуры новыя здабычы. Людзі гэтыя гінуць дзеля таго, што ніхто імі не заапекаваўся, не памог ім матар'яльна. А ведаем, што такой помачы патрабавалі нават найвялікшыя геніі, як слаўны вынаходчык радыя Марконі і інш. Найслаўнейшы суча-

сны сьпявак Шаляпін выйшаў з рускага народу, з бурлакоў і таму толькі, што найшліся людзі, якія прыпадкова пачулі ягоны голас і пасьля дапамаглі яму выплысьці з шэрай масы наверх. Так, не адзін талент гіне ў нас бясследна. Пры тым тая моладзь, якая часта вырвецца з сялянскай гушчы, апынецца ў школьных мурох, здабывае асьвету і здаецца вось-вось ужо выйдзе ў людзі, ня будзе патрабаваць дзяльбы вузкога загону, — раптам ападае ў сваіх натугах: не хапае ей сілаў, а падтрыманьня няма. На ступае трагэдыя. Выходзяць людзі часта, як кажуць, ні сьцяты ні павешаны. Беларуская незаможная вучнёўская моладзь, саматужна шукаючы сабе помачы, кідаецца ўва ўсе бакі і часта просіць падтрыманьня там, дзе прасіць ня можна і гэтым ломіць сабе жыцьцё. Да чаго гэта вядзе, ня будзем тут пісаць. Ня будзем такжа апраўдываць такіх паступкаў тым, што Беларусам, беларускай незаможнай вучнёўскай моладзі належыцца помач у здабываньні асьветы з усіх тых касаў, у якія плывуць грошы і беларускіх сялян.. Сьцьвярджаем толькі трагічнае палажэньне беларускае вучнёўскае моладзі, з якога бел. грамадзянства мусіць знайсьці выхад.

Аб гэтым фактычна шмат ужо пісалася, былі розныя заклікі, на якія аднак адгукнуліся толькі адзінкі. Сумна, але так ёсьць. А так быць не павінна. Ёсьць грошы на гарэлку і тутун, дык павінны быць і на асьвету, на падтрыманьне вучнёўскае і студэнцкае беларускае моладзі.

## Творым дапамаговы фонд

„Шлях Моладзі" памятаючы аб тым, што моладзь гэта будучыня і дбаючы аб яе дабро, справу помачы бел. вучнёўскай і студэнцкай моладзі ня раз ужо падыймаў, а цяпер прыступае канкрэтна да працы і на гэтых гонях бел. культурнае нівы. Рэдакцыйная Калегія „Шляху Моладзі" пастанавіла ў сваей выдавецкай касе стварыць фонд помачы беларускай незаможнай і здольнай моладзі. На гэту мэту адпускаем 5 працэнтаў з агульнага нашага скромнага прыходу, г. зн. з падпіскі на „Шлях Моладзі". Адначасна зьвяртаемся з просьбай да ўсіх Беларусаў, хто колькі можа, фонд гэты падтрымаць дабравольнымі ахвярамі.

Ня зможам мо' мы стварыць беларускага інтарнату, ці таннае сталоўкі, або шырока раздаваць стыпэндыі, аднак верым, што ўсё-ж такі хоць крыху але будзем памагаць тым маладым беларусам, якія гэтага будуць патрабаваць. Шырокае падтрыманьне нашае акцыі будовы хаты беларускаму паэту Міхасю Машары, будовы памятніка Ядвігіну Ш., і тое што ў гэных справах мы поўнасьцю асягнулі сваю мэту, дадае нам ахвоты да працы і веру, што і ў тварэньні фонду помачы беларускай незаможнай і здольнай моладзі пры „Шл. Мол." знайдзем сярод бел. грамадзянства падтрыманьне. Стварэньне дапамаговага фонду бел. моладзі будзе жывой памяткай дзесяцігодзьдзя існаваньня „Шляху Моладзі". — Няхай-жа справа гэта знайдзе шырокі водгалас у маладых сэрцах нашых чытачоў і і падгішчыкаў і няхай хоць частка грошаў, якія йшлі на непатрэбнае і шкоднае п'янства, ськіруецца на найпатрабнейшае і карыснае, на мэты культурныя: на беларускія кніжкі, часапісы, а перадусім на помач тым, што хочуць і маюць здольнасьці вучыцца!

Я. Н.

* * *

*(З цыклю — Шэрыя Будні)*

*Ня тужу... і не шкадую*
*маладых і яркіх сноў;*
*ціха з зорамі вяслую*
*да таёмных берагоў.*

*Хай кладзе жыцьцё завалы,*
*хай зьнямогай страшыць пуць,*
*сэрца ўпарта і трывала,*
*песьні весьлюць і плывуць.*

*Рад у ноч прызывам крыкнуць*
*на шляху знайшоўшы сьлед.*
*Можна, бачыце, прывыкнуць*
*да найгоршых дум і бед.*

*Мы прыходзім для каханьня,*
*а на веніку зары*
*раскідаем дні і раньні*
*гнеўных смуткаў званары.*

*Радасьць — сумаў перагуды;*
*свайго я — замкнуты круг*
*і будзённая палуда,*
*адзіноты шэры пух.*

*. . . . . . . . . . .*

*Ня тужу,.. і не шкадую*
*узлёту дум маей вясны,*
*казку выткуць зноў другую*
*тыя-ж — будні, тыя-ж — сны.*

*М. МАШАРА*

Краўцоў Макар

# 20 ГАДОЎ НАЗАД

*(Успамін пра Усебеларускі Зьезд 1917 г.)*

Шмат хто з цяперашняе нашае моладзі чуў напэўна, што быў у Менску некалі Зьезд з усяе Беларусі, які хацеў лепшае долі свайму народу, што дасягнуць яе не ўдалося, бо сіла перамагла права: бальшавікі Зьезд разагналі, дэмагогічна трубячы, быццам складаўся ён... *із помещиков і буржуазіі*. А тымчасам нават і цяпер, праз 20 гадоў, лягчэй хіба было-б сустрэць сярод беларусаў нэгра, як абшарніка або запраўднага капіталістага.

Што-ж гэта быў за Зьезд? Як і скуль папаў на яго я? Што там рабіў, чуў і бачыў?

Шмат можна было-б паставіць падобных пытэньняў, шмат што напісаць. Хочацца успомніць пра кардынальнае зьявішча ў незайздроснай долі роднага народу, успомніць тое, што моцна трымаецца ў памяці.

Дый ці можна гэта з памяці выкінуць?...

Густы, малады хваёвы лес каля Рожышча (на Валыні). У зямлянках і бараках сярод гэтага лесу стаяў штаб 44-га расейскага корпусу, ў якім мяне ўсе добра знalі, як старшыню корпуснага камітэту. Знaлі таксама, што я – беларус, маю кантакт з менскімі беларусамі, атрымліваю сваю родную літэратуру і г. д.

Украінцаў у корпусе была цэлая 72-я дывізія. А беларусаў трудна было выявіць. Аказаліся яны самі. У першых чыслах сьнежня (паводле старога стылю) клічуць неяк мяне на сход беларусаў, быўшых у корпусе. Сход сабраўся недалёка ад корпуснага штабу ў 46-м інжынерным палку. Заходжу ў прасторны барак. Каля сотні паўтары чалавек (а можа й больш) пад прэзэсоўствам штабс-капітана (прозьвішча ня помню, раз у жыцьці тады яго я толькі й бачыў); радзяцца, каго пасылаць у Менск на Усебеларускі Зьезд, а таксама і ў Кіеў на зьезд беларусаў-ваякаў был

# Памёр Др. Тамаш Грыб

У канцы мін. месяца далящела ў Вільню сумная вестка: у Пражскай бальніцы *па Bulovce* памёр Д-р Тамаш Грыб, кіраўнік Беларускага Загранічнага Архіву ў Празе. Вестка гэта так раптоўная і неспадзяваная, што дзівам праняла ўсіх, хто больш ці менш знаў нябожчыка: быўжа гэта, палюдзку мяркуючы, чалавек у самай сіле веку — меў скончаных усяго 42 гады.

Радзіўся Др. Т. Грыб 7.III.1895 году ў Палянах каля Нестанішак, Сьвянцянскага павету, у беднай сялянскай сям'і. Маладым хлапцом апынуўся ён у Пецярбурзе, дзе вучыўся нейкі час ў псыхонэўролёгічным інстытуце. На гэту пару прыпадаюць ягоныя жывыя зносіны з Пецярбурскай беларускай калёніяй і з мясцовымі работніцкімі палітычнымі кругамі. Іхнім ідэалам астаўся Т. Грыб верным да сьмерці.

Ваенныя падзеі вырвалі Т. Грыба на фронт (каля Рыгі), скуль ён быў высланы як дэлегат на Ўсебеларускі Кангрэс у Менск у сьнежні 1917 г. Дальшыя падзеі зьвязалі імя Т. Грыба з выканаўчымі ўладамі Беларусі (сяброўства ў Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі), з якімі ён дзяліў і горкі эміграцкі хлеб, спачатку ў Літве, а пасьля (ад 1922 г.) ў Чэхаславаччыне. Апынуўшыся ў Празе Чэскай, Т. Грыб, побач з працай палітычнай і грамадзкай (у Беларускай Радзе, у Беларускім Культ. Т-ве ім. Скарыны, у АБСА (Аб'едн. Бел. Студ. Арганізацый), заняўся йшчэ здабываньнем дальшай асьветы: ён скончыў філёзофічны факультэт чэскага унівэрсытэту ў Празе з тытулам *доктара філёзофіі.* Цікавіўся спэцыяльна соцыёлёгіяй і дысэртацыйнай тэмай ягонай было „Пытаньне народу і нацыі" (соцыёлёгічны разбор нацыі).



**Др. Т. Грыб**

На гэту пару прыпадаюць найцяжэйшыя хвіліны асабістага жыцьця Д-ра Грыба: ён, не атрымаўшы дазволу на паварот на бацькаўшчыну, змушаны быў хапацца ўсякай працы, абы толькі неяк пражыць. Гэтак плыў час аж да 1934 г., калі, пасьля сьмерці праф. Вяршыніна, Д-р Грыб стаўся кіраўніком Бел. Загр. Архіву ў Празе. Атрымаўшы разам з гэтым мінімальную магчымасьць жыцьця, Д-р Т. Грыб нанова кідаецца да працы над вывучэньнем беларускага пытаньня і знаёмленьнем з гэтым пытаньнем заграніцы. Але, нажаль, усе пярэжытыя нявыгоды лішне глыбака падарвалі здароўе Д-ра Грыба: раз за разам ён западае на здароўі, а ў мін. 1937 г. змушаны быў паддацца вельмі цяжкай опэрацыі — скулы ў жалудку (трыбусе). Ледзь толькі сяк-так ачуняў з гэтай нядугі, як натрапілася новая —малаважная, здавалася-б, грыпа. Не дацаніў яе і Д-р Грыб. І таму кончылася яна гэтак трагічна: з незашанаванай грыпы паўсталі комплікацыі, якія палі на аслабленыя папярэдняй хваробай сэрца і страваатраўчыя органы. Сэрца ня вытрымала і—паміма першараднай гэтым разам лекарскай апекі — наступіла сьмерць.

Паховіны Др. Т. Грыба адбыліся 25.I у пражскай крэматорыі. На паховінах прамаўлялі прадстаўнікі ад: беларусаў, чэхаў, расейцаў, украінцаў, грузінаў, калмыкоў і ад жыхароў камяніцы, у якой нябожчык апошні час жыў. Жалобны цывільны цэрэмоніял закончыўся пад арганныя гукі беларускага нацыянальнага гімну „Не пагаснуць зоркі ў небе". Пахавальны грамадзі Камітэт састаўлялі грам.: В. Захарка, Інж. В. Русак, Др. Я. Ермачэнка, Інж. Барткевіч і Інж. А. Калоша.

Разам з Д-рам Грыбом зый-

---

расейскага паўдзённа-заходняга фронту (абодва зьезды зьбіраліся ў адзін і той-жа самы час). Павінен зазначыць, што корпусны камітэт, на чале якога я тады стаяў, выбраны быў месяцы за два да бальшавіцкага перавароту, на 20 з нечым сяброў сваіх, меў гэты камітэт толькі 2-х бальшавікоў, органам новае (бальшавіцкае) ўлады ня быў... Землякі мае, сабраныя (ня ведаю з чые ініцыятывы) ў 46-м інжынерным палку, таксама ня былі бальшавікамі. Сярод сабраных пераважна былі салдаты, пара афіцэраў, некалькі вайсковых вураднікаў і пісароў. Скідаю шапку, вітаю землякоў, пабеларуску. Нейкі вураднік заікнуўся пра тое, што Беларусь, дык справа зразумелая, але каб мову сваю ў яе інстытуцыях заводзіць, дык гэта можа і крыху нешта лішняе. За родную мову выступіў адзін маладзенькі пісар і прачытаў цэлую лекцыю пра слаўную мінуўшчыну нашае мовы ў старадаўнай Літве... Мне запрапанавалі на выбар: ехаць дэлегатам у Менск або ў Кіеў, а калі спраўлюся, дык пабываць на абодвух зьездах. Я выбраў Менск. У Кіеў паехалі іншыя дэлегаты.

У Менск прыехаў я, калі Зьезд яшчэ зьбіраўся. Адразу кінулася ў вочы зусім слабая арганізацыя гэткага вялікага народнага веча. Ня было ніякай рэальнай збройнай сілы, якая давала-б гарантыю таго, што Зьезд магчыме давясьці сваю работу да канца. Думку гэткую я выказаў старшыні Цэнтральнае Беларускае Вайсковае Рады Рак-Міхайлоўскаму. Ад яго пачуў, што няма нават вартых жалю фінансаў, каб паслаць чалавек пару ў Кіеў на зьезд фронту. Цешыла толькі тое, што прафэсыянальныя саюзы паштавікоў і чыгуначнікаў, а таксама іншая працоўная інтэлігенцыя, ня вылучаючы акружнога камітэту расейскіх эс-эраў і гарадзкіх ды губэрніяльных самаўрадаў (яшчэ тады бальшавікамі непаразганяных) былі на баку беларускага кангрэсу.

Адкрыць зьезд у гарадзкім тэатры 5 (18)-га сьнежня 1917 году выпала на долю Рак-Міхайлоўскага. Ад прыроды не-аратар, гаварыў ён неяк вяла, пачаў пабеларуску, зьехаў на расейскую мову... Энтузіязм, любоў да свае роднае зямлі, да лепшага заўтра свайго народу выклікалі сярод

шла ў магілу выдатная постаць Беларускага культурнага работніка, палітычнага дзеяча і гарачага патрыёта. — Нехта з палітычных аднадумцаў нябожчыка — Д-р Т. Грыб быў павадыром беларускіх эс-эраў — прадставіць хіба ягоную дзейнасьць паўней і выразьней. На маю долю скромнага наглядчыка даволі тут сьцьвердзіць, што на колькі нябожчык Д-р Грыб быў няўступным баронячы свае асабістыя перакананьні, на столькі ўмеў ён шанаваць і перакананьні чужыя. Ненармальныя адносіны ў рэлігійным жыцьці беларусаў адхінулі Д-ра Грыба ад рэлігіі наагул. Тым ня менш аднак, калі ён — Грыб — сустрэўся, на эміграцыі ўжо, з сапраўдным рэлігійным жыцьцём, дык патрапіў бесстаронна ацаніць значэньне рэлігійнага чыньніка ў жыцьці адзінкі і цэлых народаў.

Гэтай бесстароннасьцю і палкасьцю да безінтэрэсоўнай народнай працы беларускай заслужыў сабе Д-р Т. Грыб ад усіх беларусаў гарачы ўспамін.

Вечная-ж Яму памяць!

**Інж. Ад. Клімовіч.**

* * *

*Эх, каб мог я так запеці,*
*Каб мог тых развесяліць*
*Што ня маюць долі ў сьвеце,*
*Што бяда іх век журыць.*

*Эх, каб мог збудзіць братоў,*
*Тых, што моцна яшчэ сьпяць,*
*Свайго жыцьця маладога,*
*Не хацеў-бы шкадаваць.*

Косаўшчына. *ЯНКА ЧОРНЫ.*

# Насьледзтва

Бугай мае лацятую чорнабелую масьць, карова белую — цяля родзіцца чырвонае. Чаму?

Бацька мае валасы чорныя, матка шатынка — сын або дачка — блёндын. Чаму?

На гэтыя пытаньні людзі доўга шукалі адказу, але не заўсёды знаходзілі яго. Думалі і ўкладалі пасвоему, як ім здавалася наймудрэй. Дайшлі на'т да правіла, што: 1) падобнае з падобным дае падобнае. Напрыклад: калі маці і бацька маюць вочы піўныя, то і сын будзе мець такія. Калі кабыла каштанка, жарабец каштан, то і жарабя будзе каштанчык.

Другое правіла было: непадобнае з непадобным дае сярэдняе, або інакш — непадобнае з непадобным дае непадобнае. Напрыклад — чырвонае з белым дае жоўтае, чорнае з белым дае шэрае. Людзі былі перакананыя, што па бацьку дзіця насьледуе фігуру, форму, па матцы — ўнутраныя ворганы.

Пазьней аднак людзі шагнулі далей і справу насьледзтва высьнілі. Вялікую заслугу тут мае чэскі манах-аўгустыянін, Рыгор Мэндэль. Быў ён манахам у горадзе Бэрн у Маравіі. Працаваў ён галоўна над гарохам і дасьледаваў як перадаецца колер цьвету гароху і колер гарохавага зярняці. Выбіраў ён напрыклад такія азнакі — чырвоны колер кветкі і жоўтае зерне, белы колер кветкі і зялёнае зерне. Такі гарох ён крыжаваў між сабою і наглядаў, што і ў якім парадку перадаецца наступным расьлінам. Свае досьледы і спасьцярогі ён апісаў і выдаў у 1864 годзе (Год скасаваньня паншчыны на Беларусі). Аднак да гэтых вынахадаў на'т вучоныя аднесьліся з недаверам і яны былі забыты аж да 1900 году. У гэтым годзе тры вучоныя незалежна адзін ад другога выкрылі тое самае, што і Мэндаль — а іменна, як перадаюцца азнакі і рысы бацькоў на дзяцей. Рабілі сьпярша досьледы на расьлінах, а потым перанесьлі на жывёлу і даказалі, што і жывёла насьледуе па тых самых правілах, што і расьліны.

Што-ж тады выкрыў Мэндэль? Можна гэта ўлажыць у тры правілы:

1) што калі бацькі маюць адказваючыя сабе рысы розныя, то дзеці іх будуць аднолькавыя. У гэтым правіле могуць быць тры выпадкі:

а) дзеці могуць мець рысы аднаго з бацькоў. Напрыклад: крыжуем сабаку з доўгай поўсьцю з сукой з поўсьцю кароткай — шчаняты будуць мець кароткую поўсьць, так як у маткі. Тое самае маем з морскай сьвінкай. Калі сабака меў чорную поўсьць, то і шчаняты будуць мець поўсьць чорную; у нашым выпадку маем шчаняты аднолькавыя, але яны маюць выгляд аднаго з бацькоў. Калі гнядую кабылу ставім пад жарабца — каштана, дык атрымаем жарабя гнядое. Але калі возьмем жарабца сівака — дык і жарабя будзе сівое. Маем мы тут перавагу аднэй рысы над другой, што ў навуцы называецца *дамінацыяй.*

---

блізка што двухтысячнага Зьезду прывітаньня прамовы армейскіх дэлегатаў і прадстаўнікоў розных менскіх арганізацыяў. Громам воплескаў пакрываў Зьезд прывітаньне украінца Кавэрдынскага, калі, паміж іншым, вырвалася з вуснаў яго: „Нашае гора — вашае гора, нашая сьвята — вашае сьвята...“ Грымеў Зьезд на словы нашага паэта Алеся Гаруна, прамаўляўшага ад імя Белар. Сацыялістычнай Грамады. Паважна, на другі дзень (ужо ў залі былога Шляхоцкага Дому) віталі Зьезд два прамоўцы ад мясцовага польскага грамадзянства.

Сьвяточны бок справы мінуў і Зьезд пачаў энэргічна працаваць у розных сэкцыях. Дыспанаваў Зьезд вялікім будынкам Шляхоцкага Дому, у залі якога зьбіраўся яго пленум, сэкцыі і камісіі Зьезду працавалі ў былым губэрнатарскім доме. Бальшавікі стараліся, як маглі, раскласьці Зьезд у нутры яго, зманулі на свой бок Шантыра і Фальскага ды аднаго з магілёўцаў. Кідалася ў вочы русафільства магілёўцаў з „Областного Беларускаго Комітета,“ існаваўшага ў час керэншчыны ў Петраградзе. Земскія (самаўрадавыя) дзеячы з гэтага Камітэту — Канчар, Вазіла і іншыя абвясьцілі нават збор беларускага зьезду ў Менску на 10 дзён пазьней (Вялікая і Вайсковая Беларускія Рады склікалі Усеб. Зьезд на 5, а гэтыя паны на 15 сьнежня (паводле ст. стылю). Шантыру ўдалося на адзін вечар адкалоць меншую палавіну Зьезду, якую ён сам ахрысьціў, як „левое теченіе.“ Вазіле з кампанамі ўдалося разьбіць Зьезд на гэт. званыя „зямлячэствы“ (паводле губэрняў — менскае, магілёўскае, віленскае, гарадзенскае і г. д.).

Мушу ўспомніць, што, ў часе прывітаньняў, віталі Зьезд і два народныя камісары „Западной області і фронта“: Бэрсон (нацыянальных справаў) і Рэзаускі (ўнутраных справаў). Першы з іх выступаў ад ППС левіцы, а другі — ад імя партыі бальшавікоў. Прамова Бэрсона была выслухана Зьездам спакойна, Рэзаускаму да канца дагаварыць не ўдалося. Калі ў часе прамовы ён узяў за ражок, вісеўшага над аратарскай трыбунай (на сцэне Гарадзкога Тэатру), нацыянальнага бе-

## Палярная зара



25.I сёлета ува усей бадай Эуропе было відаць палярную зару (вялікую чырвань на небе з поўначы). У некаторых мясцох была нават дана трывога для пажарных стражаў, бо людзі думалі што гэта дзесь недалёка ёсьць вялікі пажар. Газэты пішуць што так вялікай палярнай зары ня было відаць ужо 100 год. — Вышэй падаём зьнімку ўспомненай палярнай зары зробленую ў Нарвэгіі над морам.

---

Тая-ж рыса, якая паддаецца — называцца *рэцэсыўнай*. Гэткае крыжаваньне Мэндэль дасьледзіў пры гаросе, дзеля таго і называецца яно ў навуцы — тып гарохавы.

b) Але можа быць так, што дзеці маючы аднолькавую масьць, ня будуць падобнымі ані на бацьку, ані на матку. Дадуць нешта сярэдняе, напрыклад: дзеці белага чалавека з чорным будуць у сярэднім між чорным і белым і называюцца мулятамі. Расьліна, якая мае колер цьвету чырвоны, дае з цьветам белым новую расьліну, жоўтую. Каракулы (авечкі) (крывы і тлусты хвост) з нашымі авечкамі дадуць нешта сярэдняе. У гэтым выпадку маем дзяцей аднолькавых, але маюць яны рысы сярэднія між бацькамі.

c) Трэці выпадак, калі дзеці будуць мець рысы зусім іншыя і новыя. Напр.: белая хатняя мыш (гадуюць людзі і такую жывёлу)з танцуючай белачорнай мышой японскай дасьць мышаняты шэрыя. — Усе гэтыя тры выпадкі адносяцца да першага правіла Мэндэля — дык усюды тут патомства аднолькавае.

2) Другое правіла кажа, што калі мы патомства вышэй апісанае злучым, дык узноў сярод дзяцей гэтага патомства найдуцца рысы бацькоў. Для ясьнейшага тлумачэньня ўвядзём абазначэньні бацькоў першых літарай *P*. Патомства *P* — будзе аднолькавае і назавём яго *F*. Патомства *F* — будзе мець рысы *P*, а назавём яго 1. Для прыкладу: крыжавалі мы сабак чорных з белымі. *F* — першае патомства было аднолькавае, чорнае. Калі мы і далей будзем лучыць чорнае пакаленьне між сабою, то ізноў паявіцца масьць чорная і белая. Паяўленьне гэтае будзе зусім правідловае. Напрыклад, калі будзе чацьвёра шчанят — то тры будуць чорных, а адно белае. Тое самае з морскай сьвінкай У тым выпадку, калі патомства *F* было нечым сярэднім між бацькамі *P*, то ўжо дзеці гэтага патомства *F* будуць мець аж тры рысы бацькі, маткі і тыя сярэднія. Напрыклад — чырвоны цьвет з белым далі жоўты. Калі жоўтыя цьвяты злучым між сабою, то маем — чырвоны цьвет, белы і жоўты. На 8 выпадкаў: 4 будзе жоўтых, 2 белыя і 2 чырвоныя.

3) Трэцяе правіла Мэндэля кажа, што калі маем больш як адну пару процілежных азнак, то гэтыя азнакі перадаюцца патомству незалежна адна ад другой. Напрыклад маем гарох з чырвоным цьветам і жоўтым насеньнем і з белым цьветам і зялёным насеньнем. Пры крыжаваньні вытвараецца 4 розныя камбінацыі. Колер цьвету і насеньня ўложыцца незалежна ад сябе. З 16 комбінацый будзе — 9 расьлін з чырвоным цьветам і жоўтым насеньнем, 3—з чырвоным цьветам і зялёным насеньнем, 3 — з белым цьветам і жоўтым насеньнем, а 1—з белым цьветам і зялёным насеньнем.

Тое самае паўторыцца і з большым лікам азнакаў; напры-

---

ларускага штандару, назваў гэты штандар „нацыянальной тряпкой“ і заклікаў замяніць яе „красным знаменем інтернаціонала,“ дык на сцэну выйшлі два здаравяцкія матросы (адзін з іх вядомы ўсяму Зьезду сваім грымотным голасам левы эс-эр Дулін), узялі фігуру наркома Рэзаускага пад рукі і вывелі вон. Адзін з менскіх наркомаў, таксама левы расейскі эс-эр і матрос, Муха (соцыяльнай апекі), як дэлегат і беларус, быў увесь час на Зьезьдзе.

Характарным было тое, што ніводзін з, выступаўшых на Зьезьдзе, магілёўцаў пабеларуску не гаварыў. Будучы, гэтак трагічна закончыўшы сваю кар'еру, „прэзыдэнт“ Савецкай Беларусі Алесь Чарвякоў хітранька маўчаў і трымаўся зусім незаўважаным, нічым неадрозьніваючыся ад цэлага мора сялянскіх шэрых сьвітак і кажушкоў ды ня менш шэрых салдацкіх шынялёў, у якія вайна апранула тых-жа сялянскіх сыноў Беларусі. Чорнаю вопраткаю выдзяляліся работнікі-петраградцы, жменя народных настаўнікаў, ня ўзятых на вайну, ды яшчэ меншая колькасьць прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафэсіяў, а таксама і групка матросаў. Дзьве-тры адзінкі жанчын напэўна чуліся сіратліва сярод вялізарнага Зьезду. Некаторыя з менскіх беларусаў, з наіўнасьцю чэхаўскіх герояў з мяшчанскага вясельля, цешыліся з таго, што быў на Зьезьдзе нават заправдны генэрал (ген.-лейтэнант Аляксееўскі — былы начальнік артылерыі ўсяе Фінляндыі), выбраны дэлегатам ад сваіх салдатаў і беларусаў-маракоў Балтыцкага флёту.

Быў мамэнт, калі нашэпты бальшавікоў зрабілі немалы ўплыў на загадковы сфінкс, маўклівае наагул, сялянскае масы Зьезду і, а аражніўшы ад правізіі свае торбачкі, дзядзькі голасна заяўлялі, што ім пара ўжо ехаць дамоў. Адкрытыя контр-выступленьні лепшых аратараў Зьезду сярод сялян пераканалі іх, што галоўная задача яшчэ ня вырашана.

*(Канец будзе).*

клад крыжуем морскую сьвінку, якая мае: 1) чырвоную масьць, 2) карацейшую, 3) раскладзістую шэрсьць, — з сьвінкай 1) белай масьці, 2) доўгай, 3) гладкай шэрсьцю. Першае пакаленьне *F* будзе аднолькавае — бо 1) чырвоная масьць, 2) караткая і 3) раскладзістая шэрсьць пераважае над белай масьцю і даўгой шэрсьцю.

Калі мы гэтае аднолькавае пакаленьне скрыжуем між сабой —то атрымаем

27 з шэрсьцю чырв. карот. і разкл.
9 з белай, кароткай, раскладзістай
9 з чырвонай, доўгай, раскладзіс.
9 з з чырвонай, кароткай, глад.
3 з „ доўгай, гладкай
3 з белай, кароткай, гладкаю
3 з белай, доўгай, раскладзістай
1 з белай, доўгай, гладкаю.

Бачым, што ва ўсіх гэтых выпадках кожная азнака лучыцца як хоча з другой азнакай незалежна. Правілы Мэндэля ахапляюць справу насьледзтва, г. з. пераношаньня азнакаў на патомства, ува ўсім расьлінным і зьвярыным царстве. Цяпер для землябробаў практыкаў падамо трохі прыкладаў, як, якая масьць пераважае. У каня пераважае масьць сівая над гнядою, гнедая над караю, карая над каштанаватаю. Дэрэшаватая масьць крые іх усе. Лацятая масьць як у коняў, так і ў кароў пераважае над аднолькавай масьцю.

У кароў так званых малочных расаў масьць чорная пераважае над чырвонай, а ў мясных расаў інекаторых расаў ангельскіх чырвоная масьць пераважае над чорнай. Белая раса кароў, у якіх морда каля храпаў і скура мае чорны адцень (пігмэнт), пераважае амаль заўсёды над іншай масьцю. Тое самае ў коняў. Але калі гэтага чорнага адценю (пігмэнту) няма —тады белая масьць паддаецца любой масьці.

У авец чорная масьць каракулаў пераважае над рудою. У авец мэрыносаў — белая масьць пераважае над чорнаю.

У сьвіней — ангельскіх — белая масьць ёркшыраў пераважае над чорнай масьцю бэркшыраў.

У чалавека чорныя валасы (брунэт) пераважаюць над шатынаватымі, а шатынаватыя над яснымі (блёнд). Вочы сінія („як васількі“) уступаюць месца вачам цёмным.

П. З.

* * *

Viecier uploŭsia ŭ halli,
kryły svaje abłamaŭ,
piesień achapak zhubiŭ
u kominach vioski staroj.

Dni pačarnieli jak noč,
lepić u vočy słatoj —
dumki pajšli niedzie ŭproč
lepšaje doli šukać.

Znojduć jaje, ci mo' nie,
trudna ab hetym skazać:
dola to-ž skarb darahi,
jaje mocna-mocna dziaržać.

*Janka Kalina*

## Krychu śmiechu

**Paznaŭ**

— Bačycie, voś tut maja fatahrafija z maimi tłustymi śvinkami. Paznajecie mianie na joj?

— A jak-ža, dyk vy-ž tut u kapialušy

**Choča datrymać słova**

— Čamu vy, kumie, žmurycie vočy, jak pjecie harełku?

— Bo, bačycie, ja prysiahnuŭ svajej babie, što nikoli nie zahlanu ŭ kilišak— nu — dyk datrymlivaju słova!

**U restaranie**

— Panie kelner, dajcie mnie takuju cialačuju hałavu, jak maje toj pan kala vakna.

**Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy**

# Umovy i zahady nieabchodnyja dziela zdaroŭja

2

## Traŭleńnie

Kab strava, jakuju čałaviek źjeŭ, mahła pajści jamu na karyść, kab jana łučyła ŭ kroŭ i z kryvioju tudy, dzie tolki jana patrebnaja, treba kab jana była *pieratraŭlenaja.*

Traŭleńnie pačynajecca ŭžo ŭ hubnoj padzi. Zuby žujuć ježu, ślina nadaje stravie adpaviednuju vohkaść, kali jaje zamała ŭ samoj ježy, adnačasna pačynajecca tutaka pierarablańnie vuhlavodaŭ. Kab pamahčy henamu traŭleńniu, treba žavać doŭha, nie śpiašajučy. Nikoli nia možna łykać ježy vialikimi kuskami, kiepska pieražavanymi. Pažadana, kab zapivać stravu vadoju ci čym tam jašče.

Łykańnie davodzić stravu cieraz stravachod u straŭnik, dzie ŭsieńka źjedzienaje na niejki čas astajecca. U straŭniku straŭničny sok pierarablaje i pryhataŭlaje da taho, kab dalej u kiškoch jana mahła ŭsmaktacca.

Ścienki straŭnika majuć muskuły, jakija ściahvajucca, dziakujučy čamu strava ŭ jom ruchajecca j dakładna pierarablajecca straŭničnym sokam. U straŭniku adbyvajecca traŭleńnie białkoŭ.

Sa straŭnika ŭsieńka pierachodzić u tonkija kiški i tut pačynajecca najvažniejšaja častka traŭleńnia. U pačatku tonkich kišok, u h. zv. *dvanaccacipierstnaj* kišcy, znachodziacca *pratoki* žaŭciavoha puzyra j padtraŭničnaje załozy. Soki, jakija vyciakajuć z henych pratokaŭ, traviać białki, vuhlavody j kłustaści. U ścienkach kišok znachodziacca taksama muskuły, što ściahvajucca j raściahvajucca, pierasoŭvajučy ŭsio nižej j nižej stravu. Pieraroblenuju j razłožanuju stravu pačynajuć usmoktyvać ścienki kišok, adkul pierachodzić jana ŭ kroŭ i limfu. Z kryvi j limfy ŭsie orhany cieła i paasobnyja tkaniny dastajuć usio, što tolki im patrebna dziela rostu, adbudovy j enerhii. Toje, što mamentalna nie patrebnaje dziela henych metaŭ, *adkładajecca* na zapas. Usieńka bieskarysnaje dziela arhanizmu *vykidajecca* cieraz nyrki, lohkija (z pavietram, jakoje vydychajem), skuru i zadnieprachodnuju kišku.

Kał maje nadta błahi pach dziakujučy hnićciu niepatrebnych častak stravy. Hnićcio henaje adbyvajecca ŭ toŭstaj kišcy.

Roznyja mohuć być pryčyny niedakładnaha traŭleńnia. Časta samaja ŭžo ježa nia budzie karysnaju čałavieku, časta buduć u joj papsavanyja pradukty, kiepska vymytyja.

Lišnie mnoha ježy naraz abo kiepskaja para (za chutka pierad snom) mohuć vyklikać kiepskaje traŭleńnie. Zamała tady vydzialajucca stravatraŭčyja soki abo — u čałavieka chvoraha —u nie takim jak treba składzie. Da taho, kab ježu dobra pieratravić, treba, kab jana była apetytnaja, čystaja, smačnaja.

Kolkaść ježy patrebnaja ŭ poru (24 hadziny) na adnaho čałavieka zaležyć ad šmatlikich umovaŭ: ad vieku, daŭžyni, vahi cieła, zaniaćcia, pary hodu j pryvyčki. Kali jdzie ab vahu čałavieka, dyk lepš być ciažejšym, čymsia heta vychodziła-b u zaležnaści ad vyšyni dadzienaha čałavieka. Zdarovy čałaviek — ani za kłusty ani chudy, jak my heta najčaściej i bačym u našych viaskoŭcaŭ.

# ШТО ЧУВАЦЬ

— Сучасны **польскі** Сойм і Сэнат, у склад якога ўвайшлі бадай самыя толькі санатары, бо апазыцыя апошнія выбары байкатавала, быў спачатку аднапітым. Апошнім аднак часам распадаецца ён на групкі і партыі, каторыя вядуць між сабой барацьбу. Асабліва гэта выявілася сёлета, калі паслы з ОЗоНу, які падтрымліваюць: Прэзыдэнт І. Масьціцкі і Маршал Рыдз-Сьміглы, пачалі змагацца з паслом Жэлігоўскім — старым і заслужаным для Польшчы генэралам, прыяцелем і супрацоўнікам Маршала Я. Пілсудзкага, за тое, што ген. Жэлігоўскі ў Сойме выступіў супроць арганізацыі клюбу паслоў ОЗоНу і ўмешваньня арміі ў палітыку. Такім чынам змаганьне ў Сойме прычыняецца да аканчальнага разьбіцьця санацыі і давяло нават да разлому ў ОЗоНе, бо часьць павадыроў ОЗоНу, перадусім з Віленшчыны, высказалася па старане ген. Жэлігоўскага. — 24.І сёл у соймавай буджэтнай камісіі выступаў прэм'ер ген. Славой Складкоўскі, каторы гаварыў між іншым гэтак: „Польскі Народ павінен узбудзіць у сабе высокую сьведамасьць, што ад яго адносінаў да нацыянальных меншасьцяў залежыць у значнай ступені лёс Польшчы. Дзеля гэтага аб'явы ўсялякага роду ненавісьці з боку польскага народу да меншасьцяў уважаю цяжкой памылкай, якая раней ці пазьней мусіць памсьціцца на Польшчы." Праўдзівыя словы. Ці прагавораць аднак яны да розуму розным гура-патрыётам, якія асыміляцыйнымі пагрозамі ня толькі трывожаць нацыянальныя меншасьці, але робяць мядзьведжую прыслугу Польшчы?...

— Палажэньне ў **Гішпаніі** зьмянілася на карысьць ураду. Паўстанцы, якія дасюль ішлі ўсё наперад, аддаўшы назад урадаўцам м. Тэруэль, прымушаны ўжо адступаць і з іншых пазыцыяў. Армія ўраду лічыць цяпер мільён людзей. Кадры афіцэраў, каторыя бадай цалком пайшлі за ген. Франкам і нястачу каторых урадавая армія вельмі адчувала, усьцяж павялічваюцца новымі силамі, якія выходзяць з ваеннае ўрадавае школы ў Валенсіі. Урадавыя фабрыкі аружжа і амуніцыі працуюць усей парай. Маральны стан рэспубліканскіх жаўнераў падняўся вельмі высака. Разам з імі супроць фашыстаў змагаюцца міжнародныя брыгады ахвотнікаў, сярод якіх два батальёны ёсьць цалком амэрыканскія. Стрымаў-жа, быццам, сваю дапамогу СССР. У ўрадавай Гішпаніі пануе лад і парадак, згінула быццам і антырэлігійнасьць. Штаб урадавае арміі пад кіраўніцтвам міністра вайны Пріэто моцна сцэмэнтаваўся, тады калі па старане фашыстаў генэралы пачынаюць сварыцца хто з іх старшы. Бачачы гэта, Італія, якая падтрымлівае гішпанскіх фашыстаў, у найбліжэйшым часе мае выслаць у Гішпанію 50 тысяч новых жаўнераў на помач ген. Франко.

— На **Далёкім Усходзе**, Японцы, гонячыся за адступаючымі кітайцамі, апынуліся ў такім палажэньні, што ні ўзад ні ўперад. Фронт расьцягнуўся і яны ня могуць яго шчыльна абставіць, а тымчасам ззаду паўстаюць кітайскія партызанцкія аддзелы, якія моцна непакояць японцаў. Прытым ген. Чан-Кай-Шэк арганізуе новую кітайскую армію. —Нямецкі, прыязны Японіі, ваенны часапіс „Wehrmacht" (Збройная сіла) піша нават, што перамога Кітаю ляжыць у вытрымаласьці і здольнасьці прадаўжаньня адпору кітайскай арміі. Раней-жа ці пазьней сілы Японіі ападуць Японцы думалі, што яны сільным ударам зломяць адразу адпор Кітайцаў, але пераліčыліся і можна думаць, што вайна на Далёкім Усходзе доўга яшчэ будзе трываць.

— Новы ўрад **Францыі** працуе перад усім дзеля завядзеньне ладу і супакою ўнутры Францыі, узмацненьня францускіх грошаў, а асабліва-ж дзеля ўзмацаваньня арміі праз злучэньне кіраўніцтва яе ў паветры, на зямлі і моры ў адны рукі. Такім генэральным кіраўніком франц. арміі ўжо назначаны ген. Гамэлін.

— Урад Гогі ў Румыніі вядзе далей вострую барацьбу з Жыдамі, надовячы-ж распусьціў нядаўна выбраны парлямант. Новыя выбары адбудуцца 4.III.38.

— Урад **Югаславіі** хацеў падпісаць з Папам Рымскім дагавор і хоць ён быў прыняты славянскім парлямантам, аднак у жыцьцё ня будзе ўведзены, бо супроць яго востра выступіла праваслаўнае духавенства і насельніцтва, каторае ў Югаславіі ёсьць у большасьці.

— У канцы студня адбылася 100-ае (юбілейнае) паседжаньне **Лігі Народаў**, якое фактычна нічога новага ў жыцьці не прынясло. Пагаварылі палітыкі і разьехаліся.

—. У **Палестыне** барацьба Арабаў з Англійцамі і Жыдамі ня спыняецца. *jn.*

## Z biełaruskaha žyćcia

**Petarda ŭ BNA.** 27-ha studnia sioł. u pamieškańnie Biełaruskaha Narodnaha Abjednańnia ŭ Vilni (Zavalnaja 1), uviečary, niechta dasiul nia vykryty, praz vakno ŭkinuŭ petardu z śmiardziučaj ciečču. Jak bačym, petardy ad Žydoŭ i Ukraincaŭ dachodziać užo da Biełarusaŭ.

**I vajavodztva zabaraniła.** Ad zabarony Vilen. Haradz. Starastva vydavać časapis „Narodnuju Krynicu", biełarusy, jakija heta mieli rabić, adklikalisia da vajavodztva, adnak i adtul pryjšoŭ adkaz admoŭny.

**Baroniać BNK.** Ad pastanovy starasty ab spynieńni dziejnaści Biełaruskaha Nacyjanalnaha Kamitetu ŭ Vilni, prezydyjum hetaha Kamitetu adkliknuŭsia da vyšejšych polskich administracyjnych ułada̋ŭ, baroniačy hetaje ahulna-biełaruskaje instytucyi.

**Pryvitańnie «Дзілу»,** z nahody jaho 50-hodździa, jak štodzieńnika, pierasłaŭ ad Biełarusaŭ Ks. Ad. Stankievič. Pryvitańnie hena ŭ „Dile" z 23.I nadrukavana asobnym artykułam.

**Biełaruska - ukrainskaja studenckaja viečaryna** adbyłasia 1.II sioleta ŭ Vilni ŭ zali BNA.

**Jołačka dla bieł. dzietak u Ryzie.** Biełarusy ŭ Łatvii, nia hledziačy na ciažkaje svajo pałažeńnie, pamiatujuć ab biełaruskaj spravie i ab biełaruskich dzietkach, dla jakich u biełaruskaj pačatkavaj škole ŭ Ryzie 2.I.38 była naładžana jołačka.

## Spynieńni i aryšty Litoŭcaŭ

Nadoviačy vilenskija administracyjnyja polskija ŭłady spynili dziejnaść: Litoŭskaha Ziemlarobskaha T-va, Litoŭskaha Spartovaha Klubu i litoŭskaje kulturna-aśvietnaje arhanizacyi „Rytas". Niadaŭna tak-ža ŭłady aryštavali i pasadzili na Łukiškach u Vilni 12 b. kiraŭnikoŭ litoŭskich čytalniaŭ. Vinavaciać ich u prociŭdziaržaŭnaj pracy.

Pierasyłka apłačana ryčałtam.



# З КРАЮ

## Чэсьць маладым культурнікам

*в. Асташын, Наваградзкага пав.* Вёска Асташын здаўна славіцца культурнымі поступамі. Моладзь тут у большасьці сьведамая. Ёсьць, праўда, крыху здраднікаў, рэнэгатаў (вырадкаў), юдаў, п'яніцаў і зладзеяў, каторыя шкодзяць у працы, але сьведамая моладзь на іх не зварочвае ўвагі і йдзе на перад. 19.І.38 г. наладжана ў нас была вечарына, у часе якое хлопцы, навучыўшыся на памяць паэму Міхася Машары „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“, дэклямавалі яе, замяняючы тыя асобы, якія ў ёй выступаюць. Пасьля дэклямавалі вершы Машары: „На прадвесьні“, „Маладая Беларусь“ і верш Гурла „Кастусь Каліноўскі“. Вершы былі дэклямаваныя з вялікім пачуцьцём і выклікалі буры воплескаў. Музыка-ж адыграла беларускі нацыянальны гімн „Не пагаснуць зоркі ў небе“. Вечар адбыўся вельмі паважна. *Б—рус.*

*Ад рэдакцыі:* Моладзь вёскі Асташын, сапраўды дужа ўмела і ўдала сарганізаваўшы 19.І.38 вышэй апісаны вечар, адсьвяткавала на сёлета прыпадаючыя 100-я ўгодкі нарадзінаў слаўнага нашага паўстанца з 1863 г. і барацьбіта за лепшую долю Беларускага Народу, К. Каліноўскага. Вечар гэты можа быць прыкладам для ўсяе беларускае моладзі. І пажадана, каб такіх вечароў было ў нас як найбольш.

Маладым культурнікам з Асташына чэсьць і слава!

## Беларускае прадстаўленьне ў Баранавічах

У дзень сьв. Вадохрышча, 19 студня сёл., камітэт будовы царквы ў Баранавічах ладзіў беларускае прадстаўленьне, даход з якога празначаны быў на будову царквы. Прадстаўленьне адбылося ў залі кіна „Casino“. Ставілі „Сучаснае жанімства“ і „Птушку шчасьця“. Народу так было многа, што вялікая заля кіна не змагла ўсіх зьмясьціць. Факт гэты сьведчыць ня толькі аб набожнасьці і сьведамасьці нашых людзей, але так-жа аб патрэбе беларускага аб'езднага тэатру. *М. Л.*

## Sialanam ciažka žyviecca

*Haduciški, Śviancianskaha pav.* Ciažkaja zima dajecca sioleta sialanam u znaki. Ahułam žyćcio sialanskaje ciapier vielmi ciažkaje. Najbolšaja biada ciapier z apałam. Droŭ svaich niama, kuplać taksama niama za što, dy drovy strašna darahija. Takim čynam ludzi cierpiać choład, palačy ŭ piečkach sałomaj. Adnak nia tracim viery ŭ lepšuju budučyniu. *J. Lachovič.*

## Сумныя весткі з Нясьвіжа і Слонімшчыны.

*Дзевяткавічы, Слонімскі пав.* Беларускіх школаў у нас няма. Польскія школы ніяк ня могуць беларускім дзеткам даць асьветы. І так, калі хто нават і хадзіў у школу польскую, дык пасьля хутка забываецца аб усім і становіцца анальфабэтам. Культурна-асьветнае працы так-жа няма магчымасьці праводзіць. Газэт і кніжак беларускіх ня маем, у іншай-жа мове кніжкі для нас недаступныя. Дык проста дзічэем, дзеля гэтага просім усіх культурных людзей памагчы прачышчаць нам шлях да сьвятла.

Пяцьдзесяцёх.

*в. Вялікая Быхаўшчына, Нясьвіскі пав.* У часе Калядніх сьвят прышлося мне бачыць моладзь з в. Вялікая-Быхаўшчына. Моладзь гэта сярмяжнага народу магла-б працаваць на сваей роднай ніве, аднак, нажаль, так ня ёсьць. Усюды пануе цемра: карты, гарэлка, разбой і г. д. Даходзіць да дзікарства. Такое жыцьцё гэта ганьба. Дык апамятуйцеся, дарагія браты! Ідзема да сьвятла, бярэмся за культурную беларускую працу, за родную кніжку і газэту. Кіньма карты і гарэлку, яны нам нічога добрага не дадуць. Кніжка і газэта пакажуць нам, як трэба жыць.

М. Батура.

# Usiačyna

**70.031 viaźniaŭ.** Referent budžetu ministerstva spraviadlivaści zajaviŭ u Sojmie, što polskija vastrohi pierapoŭnienyja. Na 1.XII.1937 h. było ŭ ich 70.031 viaźniaŭ u toj čas, kali jany praznačany na 45.000 asob. Aprača hetaha 121.500 zasudžanych čakaje na svaju čarhu adsiedki kary, bo dla ich niama miesca.

**„Spakojny“ hod.** Premjer Składkoŭski 1937 hod nazvaŭ u Sojmie „spakojnym“ hodam, bo ŭ hetym hodzie ŭ Polščy ŭ časie zabureńniŭ, sialanskaha strajku i inšych vypadkaŭ zabita 114 asob, tady, kali ŭ 1932 h.—141, u 1933—145, u 1934—118, u 1935—143 i ŭ 1936—157.

**Zaćvili rozy.** U Paznanščynie ŭ adnym harodzie zazialanieŭsia i zaćviŭ adzin kust rozy, a taksama pajavilisia matyli.

**Kolki hrošaŭ dastajuć savieckija pasły.** Balšavicki parlamant — „Vierchovnyj Soviet” u Maskvie pastanaviŭ, što kožny delehat-pasoł u „Vier. Soviet” budzie atrymlivać miesiačna 1000 rubloŭ, aprača taho za kožny dzień u časie pasiedžańniaŭ dastanie 150 rubloŭ. Staršynia „sovietu” i jaho zastupniki buduć atrymlivać pa 300.000 rubloŭ. Ništo sabie...

**Rekord u razmnažeńni nasielnictva.** U m. Giustino ŭ Italii, jakoje maje 6,000 žycharoŭ, jość 1 siamja, jakaja maje 14 synoŭ, 1—13, 10 pa 12, 19—11, 23—10, 25—9, 38—8 i 70 pa 7 synoŭ. Usie ŭvažajuć, što miesta heta pabiła rekord u razmanažeńni nasielnictva.

## *Паштовая скрынка*

К. Матар'ял атрымалі, дзякуем, надрукуем у № 6 „Шл. Мол.“

Б — р у с у: Карэспандэнцыю і адзін верш, як бачыце, друкуем. Рэшта слабое. „М. Б.“ не выходзіць. Прывітаньне!

М і к о л е Б.: Матарыялы атрымалі, дзеля таго, што для нас яны не падходзяць, перадаём іх таму, каму жадаеце.

М. Л.: Карэспандэнцыю друкуем і просім пісаць больш.

І. М.: Уражаньне з паездкі ўжо снозьнена і моцна расьцягнута, дзеля таго ня можам друкаваць. Просім пісаць карэспандэнцыі. Адказ „ІКС“ дала ўжо „Хр. Думка“. Прывітаньне!

А р. Д з я м я н у: Матарыялы апрацаваныя слаба і да друку не падходзяць. Радзім больш чытаць і пазнаць добра беларускую грамату.

А л. Б у т о: Вершы да друку не падходзяць. Больш чытайце бел. кніжак і пазнайце добра беларускую грамату.

А. Г а ц у р ы: Верш „Зіма“ надрукуем, рэшта слабая.

H. V i n c u k i e v i č u: Karespandencyju nadrukujem u nastupnym numary. Prosim pisać čaściej.

*„Шлях Моладзі“ рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ“ выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego“ 59..

Выдавец: „БЕЛПРЭС“. Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.